

# Навіны БНФ

**нумар 7 (85)**
17 жніўня 2005 г.

## У нумары:







Хай нам зайздросьціць улада – ад «прэзыдэнта» да апошняй шрубкі ягонай ідэалягічнай вэртыкалі. Партыя БНФ, нягледзячы ні на што, мацнее, становячыся больш устойлівай перад націскам рэпрэсыўнага ўладнага апарату. Пашыраецца й сьпіс сяброў-партнэраў нашае партыі па-за межамі краіны. Да іх некалькі тыдняў таму далучыўся й прэзыдэнт ЗША Джордж Буш-малодшы. На здымку ён размаўляе з намесьнікам старшыні Партыі БНФ Аляксеем Януковічам. Працэс ідзе – нас падтрымлівае ўжо ўвесь цывілізаваны сьвет. Больш аптымізму! Жыве Беларусь!

# Радыё для Беларусі – па-беларуску!

Юры Гембіцкі

Эўрапейская камісія вырашыла распачаць вяшчаньне радыёстанцыі Deutsche Welle ("Нямецкая хваля") на Беларусь. Ад пачатку гэта будзе штодзённая 30-хвілінная праграма навінаў: 15 хвілінаў – беларускія, 15 — замежныя. Аднак, чамусьці... на расейскай мове. Такі падыход ёсьць, з нашага гледзішча, наступствам поўнага неразуменьня працэсаў, якія адбываюцца ў Беларусі, зьвязаных з адраджэньнем беларускай дэмакратычнай нацыі. Эўрапейскае чынавенства лічыць, што беларуская мова сёньня ёсьць беспэрспэктыўнай. Аднак, дастаткова прыгадаць досьвед пасьпяховых беларускамоўных мэдыйных праектаў (такіх, як газэта "Свабода" й "Радыё 101,2"), зьнішчаных уладамі, ці вынікі перапісу насельніцтва 1999 году, паводле якіх больш як тры чвэрці грамадзянаў краіны прызнаюць беларускую мову за родную, а трацінa штодня карыстаецца ёй ў побыце.

Адраджэньне нацыянальнай самасьвядомасьці ёсьць неабходнай умовай дэмакратызацыі кожнае нацыі. Адным з галоўных яе чыньнікаў зьяўляецца мова. Мы не выступаем за выдаленьне расейскае мовы зь беларускае мэдыйнае прасторы. Мы адчуваем прыкрасьць у зьвязку з палітыкай выдаленьня мовы беларускае. Беларусы й беларускамоўныя грамадзяне маюць права слухаць навіны на сваёй мове. Афіцыйны Менск штодня топча гэтае права, практычна выкараніўшы беларускае слова зь дзяржаўнага радыё й тэлевізіі. Сёньня да гэтай палітыкі далучыўся й Эўразьвяз. Інакш як ганебным такое рашэньне назваць нельга.

Амэрыканскае, польскае, швэдзкае, літоўскае, ватыканскае радыё вяшчаюць па-беларуску. А нямецкае? Атрымліваецца, што пад выглядам праекту для дэмакратыі за грошы Эўразьвязу ў інфармацыйнай прасторы Беларусі будзе пашырацца расейская мова. Пытаньне палягае нават не ў самім этэры – тую "Нямецкую хвалю" будуць слухаць няшмат. Пытаньне ёсьць прынцыповым. Ці на Deutsche Welle папросту ніхто ня ведае беларускай мовы? І ня хоча ведаць?

У кожным разе, праблема радыёвяшчаньня на Беларусь застаецца адкрытай. Абнадзейвае рашэньне польскага ўраду аб выдаткаваньні 1 мільёну злотых (290 тысячаў даляраў) на стварэньне беларускамоўнай радыёстанцыі.

# Hic non hac est!

## ("Тут вам не там" – лат.)

У панядзелак 8 жніўня ў Горадні мелася адбыцца сустрэча старшыні Партыі БНФ Вінцука Вячоркі з дэлегацыяй Эўрапарлямэнту на чале зь віцэ-сьпікерам Яцкам Сар'юшам-Вольскім. Але групу дэпутатаў Эўрапарлямэнту не пусьцілі ў Беларусь без тлумачэньня прычынаў, хаця ўсе дэпутаты мелі дыпляматычныя пашпарты. Натуральна, што пра гэта адразу былі паінфармаваныя ўсе кіраўнічыя структуры ЭЗ – сам Эўрапарлямэнт, Эўракамісія ды Рада Эўразьвязу. Праз нейкі час кіраўнічка прэс-службы МЗС Беларусі Марыя Ваньшына падкрэсьліла, што "паездкі, якія распальваюць нацыянальную варожасьць, будуць рашуча спыняцца ў адпаведнасьці з нормамі міжнароднага права й нацыянальным заканадаўствам". Адпаведныя органы палічылі мэтазгодным не пускаць польскіх прадстаўнікоў у краіну. У Дзяржкамітэце памежных войскаў даваць камэнтар адмовіліся, спаслаўшыся, што яны не ўпаўнаважаныя.

-- **На якой падставе нас не прапускаюць ў Беларусь!**

— На падставе рашэньня намесьніка начальніка зьмены.

— **А якое тут юрыдычнае рашэньне, вы ж разумееце, што начальнік зьмены ня можа прымаць рашэньняў такога ўзроўню!**

— Па ўсіх пытаньнях зьвяртайцеся ў беларускае консульства ў Беластоку.

Камэнтар старшыні Партыі БНФ Вінцука ВЯЧОРКІ: *"Разумею, што Лукашэнка зараз вядзе халодную вайну з Польшчай. Яна яму здавалася па сілах, але не разумею, як ён зьбіраецца ваяваць з цэлым Эўрапейскім Зьвязам, зь якім нават Расея стараецца лішне не заядацца. Не ўпусьціўшы ў краіну дэлегацыю Эўрапарлямэнту на чале з самім віцэ-сьпікерам на падставе "рашэньня намесьніка начальніка зьмены", ён абразіў цэлы Эўразьвяз разам з усімі яго краінамі ды інстытуцыямі. Самаізаляцыя пераходзіць на наступны ровень абсурднасьці. Пасьля гэтага Лукашэнку спадзявацца на тое, што ён "расколе" ЗША і Эўразьвяз, што ў самім Эўразьвязе ён падзеліць старых і новых сябраў паводле стаўленьня да Беларусі – гэтыя пляны ўжо ў мінулым. Сваімі рукамі ён будуе магутную антылукашэнкаўскую кааліцыю, у якую ўваходзіць увесь дэмакратычны сьвет".*

# Адгэтуль — з дакумэнтамі

Бліжэйшымі днямі Партыя БНФ распачне выдачу партыйных пасьведчаньняў. Іх зроблена некалькі тысячаў, таму партыйных дакумэнтаў хопіць ўсім. Дагэтуль партыйных пасьведчаньняў не існавала ўвогуле, а пасьведчаньні руху "БНФ "Адраджэньне" выдаваліся з 1991 па 1999 гады.

Дзеля яго атрыманьня трэба пакінуць фотакартку памерамі 3 на 4 *см* ці ў Цэнтральнай сядзібе, ці кіраўніку сваёй суполкі па месцы жыхарства. А грошы, якія будуць ахвяраваныя за пасьведчаньні, пойдуць у фонд падтрымкі рэпрэсаваных франтаўцаў, колькасьць якіх, на жаль, няўхільна расьце.

Пасьведчаньне №1 атрымае народны паэт Рыгор Барадулін, нумары 2 - 47 у альфабэтным парадку атрымаюць сябры Сойму.



# Мартыралёг.org — знайдзі сваіх



**Пачынаючы зь верасьня на старонцы martyraloh.org у інтэрнэце штомесяц будуць зьяўляцца 2-3 тысячы прозьвішчаў людзей, рэпрэсаваных у Беларусі за часоў Сталіна. Сама старонка "Мартыралёг Беларусі" зьявілася ў сеціве ў кастрычніку 2004 году — як віртуальны працяг аднайменнай арганізацыі, што дзейнічала ў краіне на мяжы 1980-90-х гадоў і спрычынілася да дэмакратычных зьменаў. Сёньня на сайце выстаўленыя больш за 6 тысячаў імёнаў рэпрэсаваных жыхароў Беларусі і некалькі соцень імёнаў карнікаў, архіўныя здымкі з Курапатаў, а таксама кнігі пра палітычныя рэпрэсіі. Каардынатар "Мартыралёгу" Сяргей Дубавец нядаўна заявіў пра тое, што яму ўдалося набыць яшчэ каля 50 тысячаў імёнаў ахвяраў, нібыта з архіваў КДБ. Пра абставіны ўгоды "Навінам" распавядае сам спадар ДУБАВЕЦ**

— Ідэя нашай старонкі простая — "знайдзі сваіх". Сваякоў, знаёмых. Нават не заходзячы на гэты сайт адмыслова, чалавек мае ўсе шанцы сутыкнуцца з уласным паходжаньнем твар у твар. Да прыкладу, ёсьць такое простае дзеяньне ў інтэрнэце — напісаць у пошукавай сыстэме сваё прозьвішча і паглядзець, дзе ў сьвеце ёсьць твае сваякі ці ўвогуле людзі з такім самым прозьвішчам. І цяпер усё часьцей інтэрнэтная шукалка будзе выводзіць вас на Мартыралёг. Калі ўлічыць, што ўсяго ў Беларусі толькі паводле афіцыйных зьвестак былі рэпрэсаваныя 600 тысяч чалавек, дык можна сабе ўявіць, як многа працы чакае нас наперадзе. Пры гэтым ужо сёньня сапраўды рэдкае беларускае прозьвішча не адгукнецца з нашага сайту распаведам пра трагічны лёс вашага сваяка, земляка ці знаёмага.

**— Як адбылася вашая ўгода з КДБ?**

— Умова прадаўца была — не канкрэтызаваць гэтую ўгоду. Таму дадаць да сказанага раней мне няма чаго. Хіба што варта ўдакладніць, што гаворка йшла пра чалавека, які назваўся супрацоўнікам КГБ. Зь іншага боку, не давяраць яму не было падставаў, бо такія матэрыялы захоўваюцца ў архівах КГБ і сапраўднасьць іх я выбарачна праверыў. Але правакаваць КГБ не ўваходзіць у мае задачы. Я правакую грамадзкую цікавасьць да лёсаў бязьвінных ахвяраў — гэта мой прафэсійны абавязак літаратара. Таму гаворка павінна ісьці пра чалавека, які назваўся супрацоўнікам.

**— Як хутка гэты сьпіс зьявіцца ўвесь і калі плянуецца завершыць усю працу?**

— Гэты канкрэтны сьпіс рэпрэсаваных менскім КГБ зьявіцца ўвесь на працягу году-двух. Паралельна шукаюцца й іншыя сьпісы. Падрыхтоўка біяграфіяў вымагае вялікай працы. Гэта праца на гады. Яна робіцца на энтузіязме (бяз грошай), таму, з аднаго боку, гэта зацягвае працэс, а зь іншага — дае надзею, што ён ня спыніцца ніколі.

**— Сьпісы будуць складаць толькі прозьвішчы ахвяраў, ці, мо, чыесьці іншыя?**

— Найперш — ахвяраў, расстраляных, зьняволеных і высланых з палітычнымі матывацыямі. Але апроч іх на сайце martyraloh.org ствараецца і сьпіс карнікаў — супрацоўнікаў НКВД, якія спрычыніліся да незаконных рэпрэсіяў.

**— Што будзе ў рубрыцы «Бібліятэка»?**

— Кнігі й публікацыі пра камуністычны генацыд у Беларусі. Тэма сталінскіх рэпрэсіяў на афіцыйным узроўні сёньня закрытая, і інтэрнэт — ці не адзінае публічнае месца, дзе такія выданьні можна сабраць разам.

Стваральнікі сайту martyraloh.org зьвяртаюцца да ўсіх, хто ведае і памятае пра пацярпелых ад камуністычнага рэжыму людзей і хто можа паведаміць пра іх, з просьбай зрабіць гэта на адрас сайту. Памятайма, што для нашых забытых продкаў такое паведамленьне будзе сьведчаньнем недарэмна пражытага жыцьця.

мартыралёг.org

ахвяры | карнікі | бібліятэка | спасылкі | экспэртная рада

Гэтая старонка распавядае пра злачынствы і ахвяраў камунізму у Беларусі XX ст.

пошук

English | Blog | Guestbook

Чытайце дзёньнік Мартыралёгу — абнаўленьні, навіны, новы

**19 ліпеня 2005г.** А.Лукашэнка падпісаў новы закон Беларусі "Аб палітычных партыях". Гэтага закону чакалі даўно. Як водзіцца, рыхтаваўся праект пад покрывам таямніцы (а трэба адзначыць, што законапраект выліўся ў Палаце прадстаўнікоў амаль два гады) таму вакол яго хадзіла шмат чутак-плётак. Некаторыя экспэрты казалі, што падвысіцца неабходная колькасьць сяброў партыі, іншыя разважалі наконт увядзеньня крымінальнай адказнасьці за дзейнасьць ад імя незарэгістраваных партыяў.

пісьмовыя папярэджаньні мін'юста за ўдзел у "кааліцыі "Пяцёрка плюс". Гэтыя папярэджаньні былі аспрэчаны ў судзе. Выйнікі суда нікога не зьдзівілі — міністэрства юстыцыі ў нас заўсёды ўсё робіць слушна. Затым пачалася поўнамаштабная кампанія па скасаваньні дзяржаўнай рэгістрацыі рэгіянальных структураў партыяў. Яе вынікам стала згуба ўсімі дэмакратычнымі партыямі амаль 90 % сваіх рэгіянальных структураў. Партыя БНФ зрабіла ўсё, каб захаваць тое, што магчыма захаваць. Частку структураў удалося адстаяць падчас



**Уладзімер ЛАБКОВІЧ,**

старшыня арганізацыйна-прававой камісіі Партыі БНФ

# Застацца на паверхні

Старшыня камісіі Палаты прадстаўнікоў па нацыянальных зносінах і СМІ Юры Кулакоўскі на прэсавай канфэрэнцыі, прысьвечанай прыняцьцю закона ў другім чытаньні хлусьліва зазначыў, што аніводная беларуская палітычная партыя, апроч дзьвюх камуністычных, не паўдзельнічала ў распрацоўцы гэтага закону. Але спадар Кулакоўскі ня мае рацыі. Ніводная партыя і ніводны незалежны экспэрт ня меў магчымасьці атрымаць праект на этапе абмеркаваньня, прапанаваць свае праўкі і накіраваць іх у профільную дэпутацкую камісію. У сваю чаргу палітычныя партыі, якія ўваходзяць у ініцыятыву "Пяцерка плюс", стварылі працоўную групу з партыйных юрыстаў, якія распрацавалі пакет неабходных зьменаў да партыйнага заканадаўства. Трэба адзначыць, што асноўную ролю ў выказваньні заўвагаў да закону адыгралі экспэрты ПКБ, якія ня толькі давялі да ладу агульныя меркаваньні, але самі зьвярнуліся ў Палату прадстаўнікоў з прапанаванымі зьменамі. Натуральна, што гэтыя зьмены былі адкінутыя, і ніводная праўка не была ўлічана. Іншага, зрэшты, ніхто й не чакаў.

Закон быў прыняты ў тым выглядзе, у якім паступіў у парлямэнт з ураду. І ён заканадаўча ўмацоўвае практыку, якая ўжо раней склалася ў Беларусі ў дачыненьні да палітычных партыяў, а таксама істотна пагаршае прававы рэжым іх існаваньня.

Кампанія па зьнішчэньні палітычных партыяў пачалася падчас мінулагодняй выбарчай кампаніі. Спачатку была ліквідаваная Беларуская партыя працы. Затым палітычныя партыі атрымалі судовых разьбіральніцтваў, а іншую частку здолелі аднавіць нашыя рэгіянальныя кіраўнікі — Юры Губарэвіч, Кастусь Смолікаў, Сяргей Мальчык, Віктар Раманішка. Але ўсё адно трэба канстатаваць, што пакуль Партыя БНФ не адпавядае патрабаваньням новага закону. І ў нас ёсьць крыху больш за год, каб у першую чаргу зарэгістраваць хоць яшчэ адну абласную партыйную арганізацыю. Бо мы сёньня ня маем афіцыйна зарэгістраваных абласных арганізацыяў на Магілёўшчыне, Гарадзеншчыне й Віцебшчыне. А трэба мець у Менску й большасьці абласьцей краіны. Натуральна, пра гэта пойдзе размова на бліжэйшым Сойме партыі.

Дарэчы, што ж новага нам прынёс закон аб палітычных партыях? Спынімся на асноўных момантах. **Па-першае**, новая рэдакцыя закону патрабуе ад нас наяўнасьці абласных арганізацыяў у Менску і большасьці абласьцей. **Па-другое,** палітычныя партыі абавязаныя паведамляць аб скліканьні вышэйшых партыйных органаў, у нашым выпадку зьездаў, за сем дзён да іх правядзеньня. Такая норма, зыходзячы з практыкі апошніх двух гадоў, скіраваная ў першую чаргу на адсочваньне зьездаў партыі для іх далейшага непрызнаньня. Партыя БНФ мае досьвед сваіх стасункаў зь міністэрствам юстыцыі, калі яе зьезды не прызнаваліся. **Па-трэцяе**, усе структуры палітычнай партыі абавязаныя штогод да 1 сакавіка паведамляць у мін'юст і абласныя ўпраўленьні юстыцыі зьвесткі пра сябраў сваіх выбарных органаў, юрыдычным адрасе, праведзеных мерапрыемствах. А ў выпадку, калі склад выбарнага воргану зьмяніўся, не пазьней чым праз 10 дзён пасьля такой зьмены неабходна паведаміць у мін'юст, а для рэгіянальных структураў — у абласныя ўпраўленьні юстыцыі. Гэта ўсё абцяжарвае працу нашых рэгіянальных структураў, і накладае большыя абавязкі на рэгіянальнае кіраўніцтва. Улічваючы гэты пункт, нам неабходна спыніць практыку фармальнага падыходу да дзейнасьці рэгіянальных структураў. Неабходна ўжо зараз прывесьці ў адпаведнасьць пратаколы сходаў, сьпісы кіруючых ворганаў і дзейнічаць у стасунках з органамі ўлады толькі праз кансультацыі з арганізацыйна-праўнай камісіяй партыі. **Па-чацьвертае**, зыходзячы з нормаў новага закону, можна ліквідаваць палітычную партыю ня толькі за два аднародных парушэньні закону, як гэта было ў старой рэдакцыі, а за два любых парушэньні. Зараз мін'юст можа даць адно папярэджаньне за няправільную коску на блянку, памылку пры напісаньні пратаколу суполкі, і ліквідаваць усю партыю. **Па-пятае**, уведзены інстытут паўгадовага прыпыненьня дзейнасьці палітычнай партыі. Улады выдаюць гэты новы інстытут як вельмі дэмакратычны і прагрэсыўны. Але насамрэч гэта дазваляе бязь ліквідацыі партыі цалкам паралізаваць яе дзейнасьць. Гэты мэханізм добра выкарыстоўваўся ўладамі падчас зьнішчэньня незалежных СМІ. Закон забараняе такое прыпыненьне падчас выбарчых кампаніяў, але ж ніхто не забараняе ўладам прыпыніць дзейнасьць партыі за дзень да пачатку выбарчай кампаніі. Добры сродак выключаць партыі з палітычнай кампаніі, не праводзячы яе ліквідацыю.

Мяркую, што закон гэты знаходзіцца ў адным рэчышчы палітыкі дзеючага рэжыму па зьнішчэньні палітычных партыяў. Бо пасьля ліквідацыі грамадзкіх аб'яднаньняў палітычныя партыі засталіся апошнім легальным апірышчам дэмакратычных сілаў Беларусі.

Прыняцьцё гэтага закону патрабуе ад нас большай пільнасьці й адказнасьці, і ня толькі ад цэнтральнага офісу партыі, як было раней, але й ад кіраўнікоў усіх узроўняў. Мы разам павінны зрабіць усё для захаваньня легальнага статусу партыі і не даваць магчымасьці зьнішчыць нашую рэгістрацыю па фармальных прыкметах.

# Моладзь БНФ: час прыйшоў



Франак Вячорка,
студэнт

## Background

Раённыя сходы дзеля вылучэньня дэлегатаў на Кангрэс дэмакратычных сілаў паказваюць моцную цікавасьць моладзі да палітычнае дзейнасьці наагул і да Партыі БНФ у прыватнасьці.

Моладзь, часьцей за ўсё беспартыйная, складае ня менш за чвэрць ад удзельнікаў кожнага сходу, але здараліся выпадкі, што й палову ці пераважную большасьць (раённыя сходы ў Лунінцы, у Століне, Вілейцы і інш.) Тут няма нічога дзіўнага: моладзь заўжды актывізуецца напярэдадні вялікіх палітычных кампаніяў.

Сярод палітычна актыўнае моладзі нямала прыхільнікаў БНФ. Праблема ў тым, што яны часта не знаходзяць сябе ў старэйшых партыйных структурах (маецца на ўвазе моладзь 18 — 25 гадоў), ня кажучы ўжо пра моладзь 15-18 гадоў, на працы зь якой мы таксама мусім ставіць акцэнт. Бо менавіта наяўнасьць у партыі моладзі дэманструе яе (партыі) палітычныя пэрспэктывы.

Ролю падрыхтоўчых курсаў для маладых фронтаўскіх кадраў у свой час выконваў (а месцамі працягвае) "Малады фронт". Пасьля адыходу яго менскага кіраўніцтва зьвязка Малады Фронт — Партыя БНФ слабее (у такіх гарадах, як Менск, Жодзіна, яна фактычна была разарваная), у выніку чаго, сталеючы, маладафронтаўцы не ідуць у БНФ, а проста выпадаюць з палітычнага жыцьця.

Прыкладам паразуменьня й пераемнасьці ёсьць структуры МФ і БНФ у Рэчыцы, Магілёве, Воршы, Берасьці: тут маладыя збольшага ёсьць сябрамі і партыі, і МФ. Перасякаючы мяжу ў 24-27 гадоў, былыя актывісты "Маладога фронту" становяцца партыйнымі дзеячамі. Тым самым забясьпечваецца амаладжэньне структураў.

У большыні ж рэгіёнаў няма асобнай моладзевай арганізацыі пры Фронце, а значыць, пэрспэктыўнай моладзі, якая падзяляе нашыя каштоўнасьці, але яшчэ ня высьпела дзеля партыйнае дзейнасьці, няма дзе сябе рэалізоўваць, — і яна пераўтвараецца ў "моладзь беспартыйную", неарганізаваную. А фронтаўскія структуры, адпаведна, не амалоджваюцца

## Сутнасьць

Дзеля нармальнае працы Партыі з моладзьдзю нам патрабуецца арганізаваная моладзевая структура са сваім кіраўніцтвам, сваёй дзейнасьцю й прынцыпамі працы, безумоўна, сугучнымі з партыйнымі. Мы павінныя запабегчы пераўтварэньню Моладзі БНФ у тусовачную арганізацыю, якая існуе толькі на словах.

Мэта Моладзі БНФ, і мы пра гэта адкрыта гаворым, — выхаваньне будучых палітыкаў, дзеячоў Партыі БНФ. У гэтым адрозьненьне Моладзі БНФ ад гомельскага "Лімону", ад "Маладога Фронту", ад "Часу", дзейнасьць якіх абмяжоўваецца звычайна малалюднымі вулічнымі пэрформансамі. Моладзь БНФ павінна стварыць сабе імідж маста ў палітыку для незаангажаванай сьвядомай моладзі, пачынаючы ад 15-16 гадоў.

Стварэньне Моладзі БНФ неабходнае для падняцьця іміджу Партыі БНФ, разбурэньня ярлыка несучаснае састарэлае арганізацыі. Сучаснае — значыць моладзевае. Моладзевае — значыць пэрспэктыўнае. Маючы трацціну й болей моладзі ў структурах, нам будзе прасьцей выклікаць давер у насельніцтва падчас любых магчымых палітычных кампаніяў

## Дзейнасьць

Моладзь БНФ мае існаваць ня толькі як партыйная структура. Яна павінна даць маладым магчымасьць стварыць сваю ўласную арганізацыю, плянаваць уласную дзейнасьць і час. Гэта павялічыць эфэктыўнасьць як яе функцыянаваньня, так і палітычнага выхаваньня моладзі.

Дзейнасьць БНФ можа й павінна быць ня толькі палітычнай, але і грамадзка-культурніцкай. Шмат маладых людзей унікае "палітыкі". Аднак яны прытрымліваюцца нашых каштоўнасьцяў, галасуюць за нас, гатовыя працаваць на нашыя ідэі. Гэта таксама патэнцыйныя фронтаўцы.

Моладзі БНФ варта шчыльна супрацоўнічаць зь існымі аб'яднаньнямі й ініцыятывамі, такімі, як моладзевыя праекты "Штурм FM", "Моладзевы музычны клюб", моладзевымі групамі ў школах і ўнівэрсытэтах, рэгіянальнымі "Абракадабрай", "Кажаном"; студэнцкім гуртком "Laissez-faire"; скаўцкімі аб'яднаньнямі. Абавязкова трэба арганізоўваць адукацыйна-культурную дзейнасьць у форме, прыкладам, Моладзевага дыскусійнага клюбу з штотыднёвым абмеркаваньнем самых розных пытаньняў з удзелам дасьведчаных экспэртаў. Стварэньне ўнутраных групаў паводле інтарэсаў — кампутарная, музычная, тэатральная, спартовая — усё гэта будзе гуртаваць вакол нас моладзь.

Уласна палітычная праца — гэта ўдзел у палітычных кампаніях у якасьці і сябраў камандаў кандыдатаў, і саміх кандыдатаў, і назіральнікаў, і ўдзельнікаў масавых акцыяў. Напрыклад, удзел у мясцовых выбарах можа і даць досьвед палітычнае працы для маладых, і забясьпечыць прысутнасьць Партыі ў большай колькасьці акругаў. Сыстэматычныя акцыі на актуальную тэматыку ня проста ў выглядзе аднаразавых вулічных пэрфомансаў ці "ланцугоў", часьцяком разьлічаных на "піяр", а ў суправаджэньні ўласных публікацыяў, інтэлектуальных падзеяў, збору подпісаў, накіраваньня пэтыцыяў у адпаведныя установы. Пошукі новых ідэяў для вулічнай прысутнасьці з увагі на магчымыя наступствы для студэнцкае й школьнае моладзі.

Мы ня мусім ствараць Моладзь БНФ "з нуля". Маем касьцяк з актыўнае партыйнае й зацікаўленае моладзі, падбіраем форму, зьмест, канцэпцыю нашае дзейнасьці, абгарнуўшы ў выразныя прывабныя сьлёганы, і выходзім у інфармацыйную прастору. Канкрэтныя справы дадуць Моладзі БНФ легітымнасьць дзеля паўнавартаснага існаваньня.

Калі Моладзевая камісія здолее зь верасьня пачаць актыўную працу і кантактаваньне з партыйнаю моладзьдзю, то ўжо, напэўна, ў кастрычніку стане магчымым сабраць устаноўчы сход Моладзі БНФ. Галоўнае не губляць часу, бо прэзыдэнцкая кампанія набірае абароты, а моладзь у ёй адыгрывае не апошнюю ролю.

Моладзь БНФ мусіць рыхтаваць разважлівых пасьлядоўных палітыкаў, якіх хвалюе ня толькі сёньняшні дзень ці момант так званай рэвалюцыі, але й будучыня Беларусі пасьля пераменаў. Бо хто ж будзе адбудоўваць нашую краіну, як не сучасная, дынамічная, маладая Партыя БНФ?

ПЕРШАЯ АСОБА

# Die erste Kolonne marschiert,

Вінцук Вячорка



Першы этап (вынесеная ў загаловак "*erste Kolonne*") – вылучэньне прэтэндэнтаў у "адзіныя" на партыйных форумах і абласных канфэрэнцыях – мы пасьпяхова прайшлі. Відавочна, другі этап ("*zweite Kolonne*") – раённыя сходы – таксама пройдзем маршам у тэрмін, да канца лета. Застаецца трэці: сам Кангрэс дэмакратычных сілаў. Трэба дамагчыся, каб Кангрэс прайшоў у тэрмін, у поўным складзе й выканаў сваю галоўную задачу – вызначыў адзінага дэмакратычнага кандыдата.

Гэтыя думкі грунтуюцца на маіх уласных назіраньнях з рэгіянальных сходаў. Усяго іх павінна адбыцца 146, адбылося 99. На момант напісаньня артыкулу я пабыў на 28 сходах: дваццаць у рэгіёнах і восем зь дзевяці менскіх. Загадзя стэлефаноўваўся з нашымі мясцовымі арганізатарамі, прамаўляў на саміх сходах, шмат гаварыў з актывістамі.

Часам нялёгка было пераканаць нашых мясцовых актывістаў, нашто сход патрэбны. І толькі падчас і пасьля сходу яны разумелі, наколькі важна было сабрацца разам, паслухаць прыежджых, выказацца самім: пачынаецца нешта сур'ёзнае. Настойлівае імкненьне сабраць 25 чалавек — ня прыхамаць. Мінімум чвэрць сотні яўных актывістаў на сельскі раён (у гарадзкіх болей) — гэта ня трое суседзяў з фігай у кішэні, якія на кухні лаюць і ўладу, і "менскіх палітыкаў, якія ня ведаюць жыцьця". Нашыя сходы — рэальнае апірышча будучай палітычнай кампаніі.

### Што рабілі ўлады

Улады пераканаліся, што сарваць усе сходы ня ўдасца. Першыя сходы яшчэ да іх пачатку брутальна разганялі ўсімі наяўнымі сіламі ад КДБ да пажарнікаў. Усё адно сходы адбыліся. Цяпер спрабуюць уплываць на арганізатараў і ўдзельнікаў усялякім чынам: аблогай, як у Бабруйску; пагоняй, як у Пінску; затрыманьнем пасьля сходу сіламі памежнікаў, як у Дамачове; засланьнем правакатараў, як у Салігорску. Але без разгонаў. У Кобрыні "ахоўнікі парадку" прыехалі, калі ўсё скончылася (мо' адмыслова?). А ў Лідзе на сход прыйшла прадстаўнічка ідэалягічнага аддзелу тамтэйшай "вэртыкалі", якая нікому й нічому не перашкаджала. У Лепелі вэртыкальнікі запэўнілі арганізатараў, што чапаць ня будуць, калі менскія госьці "ня будуць швэндацца па вуліцах".

У іншых мясьцінах, магчыма, атака ўладаў і адбылася б, але мясцовыя арганізатары, балянсуючы паміж публічнасьцю й плюралізмам, з аднаго боку, і бясьпекай удзельнікаў, з другога, забясьпечылі належную канспірацыю (Слуцак, Шклоў). Таксама важная навука, навыкі могуць спатрэбіцца.

У бальшыні мясцовасьцяў не чапалі. Магчыма, мясцовая "вэртыкаль" вырашыла, што кляўшыць працэс вызначэньня "адзінага", яго ўдзельнікаў і саміх прэтэндэнтаў будзе "цэнтар". Зрэшты, беларуская тэлевізія гэтую пачэсную працу ўжо пачала. Пайшлі пасквільныя сюжэты пра сходы, пра будучы Кангрэс, пра Алеся Мілінкевіча, што, думаю, пацьвярджае правільнасьць нашых прыярытэтаў.

### Хто ўдзельнічае ў сходах

Сходы арганізуюць перадусім раённыя партыйныя структуры, радзей грамадзкія актывісты. У выніку, акрамя іншага, маем фактычную карціну прысутнасьці Партыі БНФ ды іншых партыяў у рэгіёнах. Цяжка будзе камусьці даказваць, нібыта мае магутную структуру, скажам, ва Ўзьдзе, калі там так і не ўдалося правесьці сходу.

Галоўнае тлумачэньне малой колькасьці людзей, што прыходзяць на сходы, — страх. Але калі ў Лагойску зьбіраецца поўны пакой народу, зь іх ці не палова настаўнікі, у тым школьныя завучы й дырэктары, — значыць, і страх можна пераадолець, і мясцовы Фронт мае тут структуру й аўтарытэт. Дарэчы, на сходзе ў Лагойску была вельмі цікавая гаворка. Мілінкевічу, Шушкевічу й мне ня гэтулькі задавалі пытаньні, колькі давалі рэкамэндацыі. Казалі: "Не рабіце націску толькі на дабрабыт. Кажыце пра людзкую годнасьць". Я рады, што мае ўласныя думкі, а таксама назіраньні з кіеўскага Майдану, пацьвярджаюць людзі ў рэгіёнах.

Беспартыйныя, а таксама сябры Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі й БСДП (Грамада) таксама ўдзельнічаюць у сходах, выступаюць у ролі асноўных мясцовых арганізатараў, вылучаюцца ў дэлегаты Кангрэсу дэмакратычных сілаў. Гэта добра. Нацыянальна сьведамыя й адказныя людзі.

Сходы выяўляюць ролю культурных дзеячоў у кансалідацыі мясцовае супольнасьці. Безь перабольшаньня, выдатны мастак Алесь якія жывуць у рэгіёнах, ацанілі нашае ўпартае імкненьне правесьці сходы, убачылі сэнс у працэсе вызначэньня адзінага кандыдата, а самае галоўнае — замест пасіўнага чаканьня "месіяша" далучыліся да асэнсаванае дзейнасьці.

Цыркуноў, які жыве на мяжы Мядзельскага й Пастаўскага раёнаў, сваім аўтарытэтам натхніў людзей у Мядзельскім і Пастаўскім раёнах як перад сходамі, так і падчас іх. Гуртуюць вакол сябе сьвядомых і духоўна свабодных людзей Ада Райчонак (Германавічы, Шаркаўшчынскі раён), Анатоль Белы (стваральнік беларускага музэю ў Старых Дарогах), Станіслаў Суднік, галоўны рэдактар "Нашага слова", у Лідзе. А на сход у Століне ў поўным складзе прыйшоў мясцовы беларускамоўны рок-гурт "Анархасіс".

Сход набывае іншы ровень, калі прыходзяць ня толькі прадстаўнікі мясцовых філіяў 2-3 асноўных партыяў, якія адно галасуюць паводле партыйнае дысцыпліны, але й такія шаноўныя людзі, як Антось Фурс з Паставаў — легендарны змагар за незалежную Беларусь у пасьляваенныя гады, вязень ГУЛАГу.

Было прыемна пабачыць на вуліцы Майдан у Кажан-Гарадку (Лунінецкі раён) у абсалютнай бальшыні мясцовую — местачковую й сельскую — моладзь, разумных і дапытлівых хлопцаў і дзяўчат. Яны цярпліва чакалі пачатку сходу (мусіў быць кворум) і доўга не разыходзіліся пасьля, атакуючы мяне ўсемагчымымі пытаньнямі — ад палітычных і эканамічных да нацыянальна-культурных і рэлігійных. Але зьдзівіла й засмуціла адна рэпліка. Актыўны хлопец, які завочна вучыцца ў Гомлі, скардзіўся на розныя, на ягоную думку, несправядлівасьці ўнівэрсытэцкіх уладаў. Я яму прапанаваў ня скардзіцца мне, а напісаць ліст і сабраць подпісы калегаў-студэнтаў; ён жа на гэта адказаў: "Але ж я не кіраўнік ячэйкі БРСМ, каб мяне паслухалі!" Выснова: на жаль, прамываньне мазгоў, паўзучая саветызацыя моладзі мае посьпехі. Таму сьпяшаймася!

### Стратэгія й тактыка

Мы збольшага зыходзілі з двух стратэгічных прынцыпаў.

Па-першае, сходы мусілі адбыцца паводле прынятае працэдуры, у кворумным складзе. Збольшага так і сталася. Каля чатырох

# die zweite Kolonne marschiert!

тысячаў чалавек у іх паўдзельнічалі рэальна, паказваючы пашпарты. Таму прапагандысцкая кампанія ўладаў ужо разварочвае свае ерыхонскія трубы ў нашым кірунку. Яны зразумелі, што сходы — беспрэцэдэнтная кампанія агульнабеларускай мабілізацыі, пераканаўчы адказ скептыкам, якія кажуць, нібыта за Менскай кальцавой нічога не адбываецца.

Гэтаксама ніякая іншая палітычная кампанія ня можа сёньня параўнацца ступеньню прадстаўніцтва з нашым працэсам вылучэньня "адзінага": ні публікацыя ў газэтах сумнеўных сьпісаў удзельнікаў чарговага новага "руху", ні заклікі да лідэраў "дамовіцца самім".

Па-другое, на сходах нашым прадстаўнікам і прыхільнікам *трэба выйграваць* — зноў жа паводле правілаў. Калі выйграў дэлегацкі мандат хтосьці іншы — катастрофы няма, але мы павінны зрабіць усё для перамогі фронтаўцаў. На гэты момант мы (сябры Партыі БНФ, іншапартыйныя ды беспартыйныя прыхільнікі А.Мілінкевіча) ідзем упоравень з усімі іншымі дэлегатамі тэрытарыяльнае квоты, разам узятымі.

Сходы даюць людзям магчымасьць пачуць прэтэндэнтаў і наагул менскіх лідэраў, лідэрам — адказаць на пытаньні мясцовых, адчуць настрої тых, на чыіх плячах будзе ляжаць асноўны цяжар і рызыкі будучай кампаніі. Дзякуючы такім размовам пераадольваецца пэсымізм, зьяўляецца матывацыя да дзеяньня.

Тыповыя пытаньні да прэтэндэнтаў: "Ці пойдзеце да канца?" (у сэнсе — ці гатовы вытрымаць увесь цяжар адказнасьці); "Ці Кангрэс дэмакратычных сілаў сапраўды адбудзецца ў верасьні?"; "Чаму ў працэсе вызначэньня адзінага кандыдата ня ўдзельнічаюць Вайтовіч, Казулін і інш."

Некаторыя прэтэндэнты на годнасьць "адзінага" спрабавалі ў сваіх выступах рэвізаваць зацьверджаную кааліцыяй працэдуру. Нібыта на Кангрэсе дэмакратычных сілаў мае быць вызначаны не адзіны кандыдат, а "лідэр"; само ж вызначэньне адзінага кандыдата мела б адбыцца пазьней, на падставе замеру рэйтынгаў.

Але ўдзельнікі сходаў (прыкладам, у Наваполацку) былі пільныя. Без ваганьняў і не зважаючы на аўтарытэты яны адпрэчылі спробы адсунуць прынцыповае рашэньне.

Вызначэньне адзінага кандыдата, казалі яны, само па сабе аб'ядвае ўсіх адказных людзей і ўсе групы, спыніць нутраную спаборнасьць лідэраў і партыяў, дазволіць перайсьці да пабудовы вакол адзінага кандыдата шырокай пераможнай кааліцыі.

Грунтуючыся на гэтых настроях людзей, мы павінны зрабіць усё, каб Кангрэс адбыўся ў тэрмін. Калі будзе выбар "час ці месца", г. зн., ці праводзім Кангрэс своечасова, але, магчыма, не ў Беларусі, ці адкладаем і шукаем наступных магчымасьцяў зладзіць яго тут, — трэба выбіраць час. Нягледзячы на тое, што рэжымная прапаганда скарыстае факт правядзеньня Кангрэсу за мяжой, бо ўсё роўна што мы ні зробім, будуць зьвягаць.

**Людзі**

На *Меншчыне* трэба адзначыць ахвярную працу дзеля сходаў Уладзіміра Кішкурны, якому ўдалося сабраць людзей і аднавіць фронтаўскую структуру ў Мядзельскім раёне. Ён таксама зьбіраў актывістаў на сходы ў Слуцку й Лагойску. Пацьвердзілі рэпутацыю сапраўдных мясцовых лідэраў Вінцэнт Солтан (Івянец, Валожынскі раён), Зьміцер Шэвель (Лагойск). Зьміцер Абразцоў, Ян Лагвіновіч, Аляксей Сюдак і Віталь Паўлоўскі забясьпечылі нам два дэлегацкія мандаты ў Вялейцы. Аляксей Лапіцкі выдатна правёў сход у Жодзіне, а ў Смалявічах маем два мандаты нашых прыхільнікаў дзякуючы дыпляматыі Ўладзімера Лабковіча, які туды паехаў. Імкнуўся ратаваць сытуацыю ў праблемных раёнах Юрась Зянковіч.

Юрась Губарэвіч сам аб'ехаў усе раёны *Берасьцейшчыны*, некаторыя па некалькі разоў. У выніку сходаў Фронт і прыхільнікі Мілінкевіча маюць у гэтай вобласьці перавагу над усімі іншымі, разам узятымі. Калі там не атрымалася правесьці паўнавартасны сход — значыць, цяпер гэта немагчыма. У горадзе Берасьці Зьміцер Шыманскі й уся фронтаўская арганізацыя правялі абодва раённыя сходы выдатна (пры нагодзе віншуем ганаровага лідэра фронтаўцаў Берасьцейшчыны Рыгора Бакіевіча з выбраньнем на дэлегата). Арганізавана й выніков а зладзілі сходы Віталь Каратыш на Лунінеччыне, Алесь Мех і Станіслаў Чарніцкі ў Кобрыні, Кастусь Мысьлівец у Дарагічыне.

Кастусь Смолікаў і Хрыстафор Жаляпаў наведалі большыню раёнаў *Віцебскай вобласьці*. Засьведчылі сваю моц фронтаўскія арганізацыі Воршы (Алесь Шутаў, Ігар Казьмярчак), Наваполацку (Зьміцер Салаўёў, Уладзімер Кунцэвіч), Глыбокага (Яраслаў Берніковіч), Шаркаўшчыны (Ада Райчонак). Шкада, што нам не ўдалося пацьвердзіць свой уплыў у абласным цэнтры.

На *Гарадзеншчыне*, дзе гістарычна ўплыў БНФ наймацнейшы, удалымі й добра арганізаванымі былі сход у Смаргонях (пацьвердзіў лідэрства Алесь Дзергачоў), у Лідзе (у чым заслуга нязьменнага лідэра Станіслава Судніка), Сьвіслачы, Воранаве й паўторна ў Шчучыне (у двух апошніх раёнах мусіў пацьвярджаць уплыў сам прэтэндэнт у адзіныя кандыдаты Аляксандар Мілінкевіч, які там балятаваўся мінулае восені). Хацелася б лепшага выніку ў самой Гарадні (маем два з чатырох мандатаў). У большыні іншых раёнаў фронтаўскія арганізацыі трэба сур'ёзна адбудоўваць.

У *Магілёўскай вобласьці* прынцыповымі для ўсіх нас і для лідэра абласной арганізацыі Рыгора Кастусёва былі сходы ў Шклове й Бялынічах (гэта акруга сп. Кастусёва зь мінулых выбараў), і мы там маем 3 дэлегатаў. Цешыць, што кантралююць сытуацыю фронтаўскія лідэры ў Дрыбіне (Мікалай і Андрэй Юрковы). Аднак ў Магілёўшчыне наагул засталося сама больш працы.

З *Гомельскай вобласьці*, а менавіта са Сьветлагорску, сходы пачаліся. Перапужаныя абласныя ўлады павялі сябе вельмі брутальна, прэвэнтыўна арыштаваўшы кіраўніка нашай абласной арганізацыі Віктара Раманішку й аднаго з магчымых дэлегатаў Вадзіма Болбаса. Таму ніхто з нашых сяброў ад Сьветлагорску ня трапіў у дэлегаты. Аднак мы не апратэстоўвалі ў Аргкамітэце вынікі таго сходу — дзеля захаваньня кааліцыйнага паразуменьня. У астатніх раёнах Гомельшчыны, акрамя моцнай Рэчыцы (кіраўнік Валер Пуціцкі), фронтаўскія структуры мала чым сябе праявілі, і толькі прыхільнасьць мясцовых сяброў АГП да А.Мілінкевіча дазваляе гаварыць пра агульны посьпех у гэтым рэгіёне.

Урэшце, у горадзе Менску мы пераканаліся, што перамагаць нават у дэрбі (г.зн. нутраным адборачным туры) можна, толькі змабілізаваўшы ўсіх актывістаў. Мы ўзялі 10 з 18 дэлегацкіх месцаў. Шасьцёра — Партыя БНФ, чатыры беспартыйныя з блізкіх арганізацыяў. Апраўдалася стратэгічнае паразуменьне з маладзёвым згуртаваньнем "Правы альянс". Добра спрацавалі Сяргей Міхноў, Андрэй Церашкоў, Аляксей Янукевіч.

Зь менскіх лідэраў найбольш актыўна езьдзілі Аляксей Янукевіч, Уладзімер Лабковіч, Уладзімер Кішкурна, Юрась Зянковіч. Падтрыманы намі прэтэндэнт у адзіныя кандыдаты Аляксандар Мілінкевіч пастараўся наведаць сходы ў вялікіх гарадах. Наколькі мог, на сходы выяжджаў Віктар Івашкевіч, які ёсьць намесьнікам старшыні Нацыянальнага арганізацыйнага камітэту Кангрэсу дэмакратычных сілаў. Усім нам гэтыя выезды былі вельмі карысныя.

**Загаловак: Леў Талстой "Вайна і мір"**

# "Джэм-банк" захварэў

Арыштаваны генэральны дырэктар ААТ "Джэм-банк" Аляксандр Татарынцаў. 10 жніўня Дэпартамэнт фінансавых расьсьледваньняў Камітэту дзяржкантролю ўзбудзіў супраць яго крымінальную справу па ч.3 арт. 108 "Злоўжываньне ўладай ці службовымі паўнамоцтвамі". Татарынцаў затрыманы й знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрыманьня МУС.

Рада дырэктараў "Джэм-банка" схільная трактаваць гэта як спробы аказаць ціск на банк з мэтай стварэньня сыстэмнага банкаўскага крызісу на карысьць асобных сябраў ураду й нанясеньня непапраўнага ўрону банку любой цаной. Праўда, кіраўніцтва банку не называе прозьвішчаў гэтых карумпаваных урадоўцаў.

Прыгадайма, 25 ліпеня Нацбанк увёў у "Джэм-банку" часовую адміністрацыю з супрацоўнікаў самога ж Нацбанку ды "Белгазпрамбанку" тэрмінам на 3 месяцы, матывавашы гэтае рашэньне тым, што на балянсе "Джэму" існуе высокая запазыка нерэзыдэнтаў памерам 16 мільёнаў даляраў, што перавышае ўласны капітал банку. Банк зьвярнуўся ў Вышэйшы гаспадарчы суд. Той 2 жніўня прыняў заяву да разгляду. 9 жніўня Нацбанк адмяняе часовую адміністрацыю, аднак уводзіць ліцэнзійныя абмежаваньні ў дзейнасьці банку, блякуючы ўсе апэрацыі па прыцягваньні банкам рэсурсаў. Зыходзячы з рэзкіх заяваў кіраўніцтва "Джэм-банку", апошні б'ецца насьмерць, ведаючы, што літасьці ня будзе, і што нехта з ураду ці адміністрацыі іх "замовіў". Ці паўторыць ён лёс сумнавядомай "БелБалтыі"? Альбо сытуацыя будзе ўсё ж выпраўленая? Колькі яшчэ чалавек, зьвязаных з падзеямі вакол "Джэма", апынецца за кратамі? Даведаемся бліжэйшымі тыднямі. Аднак тое, што банк сур'ёзна захварэў, сумневаў няма.

# Рызыка ідзе з Расеі

Паніжэньне аб'ёмаў гандлю з Расеяй і дырэктыўнае падвышэньне заробку ў Беларусі вось ужо некалькі месяцаў зьяўляюцца галоўнымі рызыкамі для росту беларускай эканомікі.

**Умовы**

Урад нарэшце прызнаў запавольваньне тэмпаў эканамічнага росту ў краіне ў першай палове бягучага году ды выказаў занепакоенасьць у зьвязку з гэтым, а таксама ў зьвязку са скарачэньнем аб'ёму гандлю з Расеяй. Урад лічыць, што на фармаваньне гэтай тэндэнцыі паўплывалі высокі ўзровень росту эканомікі Беларусі ў 2004 годзе, а таксама чыньнік пераходу ва ўзаемным гандлі з Расеяй на сплату ПДВ у краіне прызначэньня і запавольваньня тэмпаў эканамічнага росту ў Расеі. Скарачэньне гандлю з Расеяй можна патлумачыць як новым парадкам сплаты ПДВ з 1 студзеня і, адпаведна, ростам коштаў на беларускую прадукцыю, так і іншымі прычынамі – узмацненьнем канкурэнцыі на расейскім рынку ды зьніжэньнем попыту ў выніку запавольваньня эканамічнага росту ў Расеі.

Гэты чыньнік будзе й надалей дзейнічаць і нэгатыўна ўплываць на разьвіцьцё беларускага экспарту. Тым больш, што размова зараз у Расеі йдзе нават не пра падвышэньне тэмпаў эканамічнага росту, а пра тое, каб па выніках 2005 году не панізіць іх болей за 5 адсоткаў.

**Лічбы**

Да сярэдзіны году адметна запаволіліся тэмпы зьнешнегандлёвага абароту Беларусі. За паўгады аб'ём беларускага экспарту падрос на 19,4 % у параўнаньні з 2004 годам, але ў мінулым годзе яго прырост склаў 31,9 %. Імпарт падрос на 2,7 %, а год таму – аж на 29,9 %. Беларусь пакуль захоўвае станоўчае сальда зьнешняга гандлю, аднак за студзень – травень 2005 году яно склала 318,5 мільёнаў даляраў, а за студзень – красавік было 480,7 млн! Прычым рост аб'ёму зьнешняга гандлю дасягнуты выключна ростам коштаў, а па фізычнаму аб'ёму экспарт нават зьнізіўся на 0,6 %, а імпарт – на 4,8 %.

У гандлі з Расеяй сур'ёзнае паніжэньне аб'ёмаў зьнешняга гандлю зафіксавана як па кошце, так і па фізычнаму аб'ёму. У коштавым вымярэньні экспарт у Расею зьнізіўся на 10 % ў дачыненьні да ўзроўню мінулага году, імпарт – на 7,4 %, а ў фізычным аб'ёме – на 13 і 10,7 % адпаведна.

Запазычанасьць па плацяжах у бюджэт вырасла на 25,5 % з пачатку году ды дасягнула да 1 ліпеня 295 мільярдаў 200 мільёнаў рублёў.

Да таго ж у першай палове 2005 году адбыўся рост пратэрмінаванай запазычанасьці прадпрыемстваў – на 6,1 % ў параўнаньні з узроўнем на 1 студзеня 2005 году. Фактычныя памеры запазычанасьці склалі 5 трыльёнаў 245 мільярдаў рублёў.

**Пагрозы**

Нарастаньне агульнай пратэрмінаванай запазычанасьці пры агульным жа росьце прыбытку сьведчаць аб тым, што ў беларускай эканоміцы нарастае дыфэрэнцыяцыя прадпрыемстваў па іх фінансавым стане. То бок, адбываецца прырост прыбытковасьці ў адных ды паглыбленьне стратнасьці ў іншых.

Калі зьнешняя кан'юнктура будзе й надалей спрыяльнай для беларускай дзяржавы, а дынаміка макраэканамічных дадзеных захаваецца на бліжэйшы час, то захаваньне эканамічнага росту, хоць і запаволенага, магчымае да канца году. Што ж да доўгатэрміновых пэрспэктываў, то яны пакуль — таямніца. Пра гэта ў чэрвені сумесна заявілі нават МВФ ды Сусьветны банк.

Найбольш сур'ёзнай пагрозай фінансаваму стану беларускіх прадпрыемстваў ёсьць праграма падвышэньня сярэдняй заробнай платы, якая істотна павялічвае іх затраты на вытворчасьць тавараў і паслуг ды паніжае канкурэнтаздольнасьць на нутраным і зьнешнім рынках. Сярэдняя заробная плата са студзеня па травень вырасла на 13 % ды склала 450 тысяч рублёў па краіне ў траўні ці 209 даляраў. Да канца году яна павінна быць ня менш за 250 даляраў, то бок падвялічыцца яшчэ на 20 адсоткаў, калі абменны курс валюты застанецца нязьменным. Другое месца па пагрозах займае высокая верагоднасьць далейшага зьніжэньня тавараабароту з Расеяй. Папершае, з прычыны агульнага эканамічнага спаду ў Расеі, а падругое, у сувязі з узмацненьнем канкурэнцыі на яе рынку па меры лібэралізацыі расейскага заканадаўства ў дачыненьні да тавараў з трэціх краінаў. Чакаць істотнага праяўленьня ўплыву гэтых чыньнікаў можна ўжо да канца бягучага году. Гэта можа праявіцца, у прыватнасьці, ў павелічэньні запасаў гатовай прадукцыі на складах прамысловых прадпрыемстваў. За студзень – чэрвень яны вырасьлі на 33,4 % ды склалі 61,9 % ад сярэднемесячнага аб'ёма вытворчасьці супраць 58,1 год таму.

Паласу падрыхтаваў

**Юры ГЕМБІЦКІ**

# Вяртаньне дзяржаўнасьці

25 жніўня 1991 году, праз тры дні пасьля правалу путчу ў Маскве, Вярхоўны савет Беларусі 12-га скліканьня надаў Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце (яна была прынятая 27 ліпеня 1990 году) канстытуцыйную сілу. Днямі гэтай падзеі споўніцца 14 гадоў. Паводле гэтага дакумэнту, "Беларусь ёсьць сувэрэннай дзяржавай, усталяванай на аснове ажыцьцяўленьня беларускай нацыяй яе неад'емнага права на самавызначэньне, дзяржаўнасьці беларускай мовы, вяршэнства народу ў вызначэньні свайго лёсу". Мэтамі дзяржаўнага сувэрэнітэту былі ўхваленыя свабоднае разьвіцьцё й дабрабыт, годнае жыцьцё кожнага грамадзяніна на аснове забесьпячэньня правоў асобы, ператварэньня тэрыторыі Беларусі ў бяз'ядзерную зону, а самой краіны – у нэўтральную дзяржаву.

У сваю чаргу, вызначэньне сувэрэнітэту дзяржавы й яго мэтаў пацягнулі за сабой прыняцьцё адпаведных праваых палажэньняў, якія замацавалі грамадзянства Беларусі, уласнасьць народу Беларусі на зямлю, нетры, прыродныя рэсурсы, на адпаведную долю маёмасьці былога Савецкага саюзу, непадзельнасьць і недатыкальнасьць тэрыторыі краіны, права на стварэньне ўласнай крэдытнай і грашовай сыстэмаў, нацыянальнага банку, узброеныя сілы, унутраныя войскі, органы дзяржаўнай і грамадзкай бясьпекі. У адпаведнасьці з Дэкларацыяй Беларусь набыла права самастойна заключаць добраахвотныя саюзы зь іншымі дзяржавамі ды выходзіць з гэтых саюзаў.



Пра тыя гістарычныя падзеі прыгадвае дэпутат Вярхоўнага савету 12-га скліканьня, адзін з самых вядомых і аўтарытэтных сябраў Фронту — ***Галіна СЯМДЗЯНАВА***.



—Калі стала вядома пра падзеі ў Маскве, пра ГКЧП, калі па тэлевізары сталі безупынна круціць балет, мы – апазыцыя БНФ, сабраліся ў нашым працоўным памяшканьні ў будынку Вярхоўнага Савету. Гэта быў канец жніўня, усе ў адпачынках, у горадзе амаль нікога не было. Мы абмяркавалі сытуацыю, натуральна, адразу выразна акрэсьлілі сваё стаўленьне, прынялі адпаведную заяву. Таксама пачалі збор подпісаў дэпутатаў за тэрміновае скліканьне пазачарговай сэсіі Вярхоўнага Савету. І за вельмі кароткі час мы здолелі сабраць неабходную колькасьць подпісаў.

Прэзыдыюм Вярхоўнага савету прыняў рашэньне аб скліканьні пазачарговай сэсіі. Апазыцыя БНФ вельмі сур'ёзна рыхтавалася, мы вынесьлі на гэтую нечарговую сэсію праекты каля трыццаці дакумэнтаў. Самым цяжкім і вельмі істотным было прыняцьцё рашэньня аб забароне дзейнасьці КПСС у Беларусі. Бо, як вядома, камуністы мелі ў тым складзе Вярхоўнага Савету XII скліканьня пераважную большасьць. Але разгляд быў адразу пасьля правалу ГКЧП, камуністы былі вельмі напалоханыя, і, пад нашым ціскам, фактычна забаранілі самі сябе. Акрамя таго, мы здолелі правесьці вельмі патрэбны Закон аб прыватнай уласнасьці на зямлю. І, натуральна, было прынятае гістарычнае пастанаўленьне аб наданьні статусу канстытуцыйнага Закону Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі. Гэтае рашэньне ў жніўні 1991 году прайшло ў Вярхоўным Савеце значна прасьцей, чым сама Дэкларацыя ў 1990 годзе. Тым болей, што на той момант ужо й Расея абвесьціла сувэрэнітэт.

Дарэчы, калі мы рыхтавалі праекты дакумэнтаў, Валянцін Голубеў на адной з нашых нарадаў прапанаваў зьмяніць назву дзяржавы на "Рэспубліка Беларусь", скарочана – Беларусь. Гэтае рашэньне таксама мы здолелі правесьці. Нечарговая сэсія працягвалася тады ўсяго толькі два дні, таму шэраг іншых гістарычных рашэньняў – пра герб, сьцяг ды іншыя, былі прынятыя ўжо ўвосень. Але ўжо тады бел-чырвона-белы сьцяг зьявіўся ў зале паседжаньняў. Мы літаральна з бойкай унесьлі тады нацыянальны сьцяг ды паставілі побач з трыбунай. Пазьней, праўда, яго даваліся прыбраць, і сьцяг быў каля першага мікрафону. А ўжо праз некалькі тыдняў ён стаў дзяржаўным сьцягам Рэспублікі Беларусь.

Юры ГЕМБІЦКІ

Ад двухбаковых сяброўскіх адносінаў Польшчы й Беларусі засталіся разваліны. Адазваны амбасадар Польшчы Тадэвуш Паўляк, высланы часовы паверáны ў справах Польшчы ў Беларусі. Амбасадар Беларусі ў Варшаве Павал Латушка гераічна трымае абарону, але балянсуе на мяжы абвяшчэньня яго пэрсонай non grata.




# Халодная вайна

Усё распачалося з VI Зьезду Саюзу палякаў у сярэдзіне сакавіка. Улады не прызналі новае дэмакратычна абранае кіраўніцтва, захапілі польскія дамы, пабудаваныя на сродкі польскіх падаткаплацельшчыкаў, адабралі газэту Glos znad Niemna, выданьне якой ажыцьцяўлялася за тыя ж грошы. Улада прызнае ў якасьці старшыні Саюзу палякаў скандальна-праўладнага Тадэвуша Кручкоўскага, памагатыя апошняга выключаюць з Саюзу яго старшыню Анжаліку Борыс разам зь некаторымі іншымі.

13 траўня БТ паказвае фільм "Хто замовіў Саюз палякаў?", у якім выкладае пункт гледзішча ўлады на канфлікт у СПБ. Польшчу абвінавачваюць у фінансаваньні сэпаратысцкай дзейнасьці, а таксама ў шпіянажы. Шляху назад няма. Абодва бакі пачынаюць высылаць супрацоўнікаў амбасадаў, пісаць афіцыйныя заявы й дыпляматычныя ноты. Пачынаюць выходзіць фальшывыя нумары газэты Glos znad Niemna.

Сьпікер Сэйму Польшчы Влодзімеж Чымашэвіч назваў сытуацыю ў нашых двухбаковых адносінах фатальнай ды ня выключыў закрыцьця амбасады Польшчы ў Менску. Беларусь выслала дарадцу амбасады Польшчы ў Менску. Польшча выслала дарадцу беларускай амбасады ў Варшаве. Будынак Саюзу палякаў у Горадні штурмуе АМАП. Арыштаваныя ўсе, хто быў у будынку, у тым ліку Анжаліка Борыс, а таксама першы старшыня Саюзу палякаў Тадэвуш Гавін. Раніцай 28 ліпеня каля 25 сябраў СПБ ладзяць публічнае набажэнства перад Домам польскім. Беларусь адмаўляе ў паветраным калідоры самалёту з польскай урадавай дэлегацыяй, якая накіроўваецца ў Расею дзеля адзначэньня пяцігодзьдзя адкрыцьця помніка ахвярам у Катыні. Самалёт ляціць праз Украіну. Беларускія ўлады кажуць, што нічога такога не рабілі, і польскі бок хлусіць.

З 29 ліпеня разрываць партнэрскія дачыненьні з Беларусьсю пачынаюць польскія гарады. Вроцлаў – з Горадняй, дэлегацыя Любліна адмяняе візыт у Берасьце.

Амаль усе польскія мэдыі друкуюць матэрыялы супраць беларускіх уладаў. *"Ты скончыш, як і іншыя тыраны"*, - піша газэта *Super Express*. У беларускіх жа дзяржаўных мэдыях увогуле разгарнулася сапраўдная антыпольская г і с т э р ы к а .

У Варшаве з 12 жніўня арганізаваны збор рэчаў і ежы для беларускіх палякаў і актывістаў беларускай апазыцыі. Сярод арганізатараў акцыі – улады Варшавы й былы сакратар польскай амбасады ў Менску Марэк Буцька, якога беларускія ўлады выслалі першым. Потым, дарэчы, шэфа консульскага аддзелу Анджэя Бучака. Потым – Анджэя Альборскага, часовага паверанага ў справах. Палякі ж выслалі пакуль апошняга "абмену" толькі Максіма Рыжанкова – намесьніка кіраўніка місіі.

Віцэ-сьпікер Сэйму Дональд Туск прыяжджае ў Менск і пасьля ўсіх сваіх сустрэчаў робіць выснову, што гэта канфлікт не Беларусі з Польшчай, а беларускай улады з беларускай жа дэмакратычнай супольнасьцю. Кіраўнічка прэс-службы МЗС Беларусі камэнтуе візыт Туска як распальваючы нацыянальную варожасьць. Праз некалькі дзён у Беларусь не дапускаюць віцэ-сьпікера Эўрапарляманту паляка Яцэка Сар'юша-Вольскага і яшчэ трох прадстаўнікоў Эўрапарляманту, таксама палякаў. Другі віцэ-сьпікер польскага Сэйму Юзэф Зых патрабуе ад амбасадара Беларусі ў Варшаве Паўла Латушкі прадставіць інфармацыю пра адносіны ўлады да Саюзу палякаў і патлумачыць юрыдычныя прычыны аспрэчваньня вынікаў сакавіцкага зьезду арганізацыі.

На гэтым фоне каля польскай амбасады ў Менску штодня актывісты БРСМ (лукамола) пілуюць "дрэва польска-беларускага сяброўства". У той жа час актывістаў "Маладога фронту", якія хацелі побач паставіць пікет салідарнасьці з Польшчай, "вяжуць" міліцыянты. Аляксандр Лукашэнка кажа, што Польшча праводзіць антыбеларускую кампанію, з мэтай перавесьці ўвагу свайго народу ад праблемаў у самой Польшчы.

13 жніўня мэр Варшавы Лех Качыньскі заяўляе, што крызісам у польска-беларускіх адносінах мусіць заняцца Эўразьвяз. Днямі ж урад Польшчы прыняў раней пра адкрыцьцё ў Польшчы на мяжы зь Беларусьсю радыёстанцыі і выдаткаваў на гэтыя мэты 1 мільён злотых.

Паглядзім, што будзе праз два месяцы, калі ў Польшчы зьменіцца ўлада. Аднак у кожным разе палапшэньня не прадбачыцца. Хутчэй за ўсё будзе так, як з амбасадамі Чэхіі й Славаччыны, дыпляматычныя місіі якіх прадстаўляюць часовыя паверáныя ў справах. Ёсьць і больш радыкальныя прагнозы, аж да закрыцьця амбасады. Будзем верыць, што да гэтага ня дойдзе.

Камэнтар старшыні Партыі БНФ Вінцука ВЯЧОРКІ: *"Канфлікт вакол Саюзу палякаў плянаваўся ўладамі даўно й мае два вымярэньні. Па-першае, трэба было вынайсьці падставу для абвастрэньня стасункаў з Польшчай тым самым паглыбленьня ізаляцыі Беларусі ад эўрапейскага сьвету; тым самым таксама нанесьці ўдар па г.зв. "новай Эўропе" ў складзе ЭЗ, якая разумее нас значна лепш; тым самым спрабаваць проціпаставіць ЭЗ і ЗША. Па-другое, гэта банальная спроба прыдушыць адну з найбольш лічэбных грамадзкіх арганізацыяў. Ніякіх "міжнацыянальных" прычынаў у канфлікце няма".*

# Новы твар АБСЭ

Былы кіраўнік Офісу АБСЭ ў Менску Эбэргард Гайкен, які ўзначальваў Офіс з моманту яго адкрыцьця ў студзені 2003 году, пайшоў на адпачынак. А новы кіраўнік офісу, швэд Оке Пэтэрсан, як чакаецца, пачне выконваць свае службовыя абавязкі 29 жніўня. Спадар Пэтэрсан быў прызначаны кіраўніком Офісу 2 жніўня дзейным старшынём АБСЭ, славенцам Дымітрыем Рупэлем пасьля адмысловых кансультацыяў паміж Беларусьсю й АБСЭ.

Да свайго прызначэньня ў Беларусь сп. Пэтэрсан узначальваў дэпартамэнт МЗС Швэцыі па пытаньнях палітыкі ў галіне бежанцаў і міграцыі. Дагэтуль ён працаваў у Расеі, Украіне, Афрыцы, ЗША, краінах паўднёва-усходняй Эўропы.

# Першы ўказ прэзыдэнта Бакіева



15 жніўня прэзыдэнт Кыргыстану Курманбэк Бакіеў, які прыйшоў да ўлады ў выніку датэрміновых выбараў пасьля "тульпанавай рэвалюцыі", афіцыйна ўступіў на пасаду. Нагадаем, за яго прагаласавала больш за 80 адсоткаў выбарцаў, якія ўдзельнічалі ў галасаваньні. Першым указам Бакіева стала прызначэньне свайго паплечніка Фелікса Кулава на пасаду выконваючага абавязкі прэм'ер-міністру. Трэба адзначыць, што новаабраны прэзыдэнт выканаў сваё абяцаньне перад Кулавым. Гэта была адна з умоваў яго зьняцьця з прэзыдэнцкай гонцы на карысьць Бакіева. Цягам бліжэйшых дзён парлямэнт краіны павінны афіцыйна зацьвердзіць Кулава на пасадзе прэм'ера. Новаму ўраду давядзецца зрабіць шмат працы. Большасьць бюджэту краіны сёньня фармуецца за кошт дапамогі розных міжнародных фондаў, а таксама за кошт вайсковай базы ЗША "Манас".

# Сэанс вар'яцтва ў Каракасе



У сталіцы Вэнэсуэлі Каракасе прайшоў т.зв. Антыімпэралістычны трыбунал, які вынес "афіцыйны прысуд" зьнешнепалітычнаму курсу ЗША. Паседжаньне трыбуналу адкрыў віцэ-прэзыдэнт краіны Хасэ Вісэнтэ Ранхель. У судзе выступалі "сьведкі" з В'етнаму, КНДР, Мэксыкі, Палестыны, самой Вэнэсуэлі і... Беларусі. Адмысловую «ганаровую» дэлегацыю склалі сябры БРСМ. "Пракурорам" на судзе зьяўлялася амэрыканка-антыглябалістка Эва Голінджэр, аўтар кніг пра прэзыдэнта Вэнэсуэлі Уга Чавэса. Агулам на гэты фэст-шабаш прыбылі больш за 17 тысячаў чалавек з 150 краінаў. Галоўны рэжысэр гэтага відовішча, "таварыш прэзыдэнт Чавэс" напярэдадні заявіў наступнае: "Калі мяне заб'юць, дык вінаватым у маёй сьмерці будзе Джордж Буш. Калі пры дапамозе д'ябла пляны маіх ворагаў ажыцьцявяцца, дык можаце забыцца пра вэнэсуэльскую нафту, спадар Буш". Вынікі: рэжым засуджаны, Чавэс жывы. Буш з нафтай, Вэнэсуэля думае пра Беларусь. Паклічце доктара!

# Пагроза фашызму з усходу

Расейскія праваабарончыя арганізацыі заклапочаныя ростам ксэнафобіі ў Расеі. Асаблівую занепакоенасьць праваабарончых арганізацыяў выклікае стварэньне нацыяналістычнымі й нацысцкімі партыямі й рухамі ваенізаваных фармаваньняў.

Паводле апошніх сацыялягічных дасьледваньняў больш за палову грамадзянаў Расеі падзяляюць ультраправыя нацыяналістычныя лёзунгі, такія як «Расея для рускіх». Сярод народаў, якія выклікаюць раздражненьне, першыя месцы займаюць выхадцы з Каўказу ці Сярэдняй Азіі, а таксама кітайцы й габрэі. На першым месцы сярод народаў, якія выклікаюць няпрыязь у расейцаў, знаходзяцца чачэнцы. Гэта выклікана працягам доўгай вайны, спалучанай са стварэньнем вобраза чачэнца-ворага на расейскім тэлебачаньні.

Апошнім часам таксама адбыўся пераход нацыяналістычных і нацысцкіх партыяў і рухаў ад прапаганды да заклікаў да адкрытага тэрору. Адна з такіх груповак – "Славянскі Саюз", заклікае да ўзброенага паўстаньня й арганізавала хакерскія атакі на сайты расейскіх праваабарончых арганізацыяў. Зараз групоўкі скінхэдаў ёсьць літаральна ў кожным рэгіёне Расеі. Агульная іх колькасьць ацэньваецца прыблізна ў 100 тысячаў.

# Генадзь САГАНОВІЧ



Месяц таму з Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук звольнілі аднаго з самых вядомых беларускіх навукоўцаў-гісторыкаў, дасьледвальніка сярэднявечнага пэрыяду гісторыі Беларусі й творчага чалавека Генадзя Сагановіча. Натуральна, што акадэмія навук страціла вельмі шмат. Самому ж навукоўцу гэтая акалічнасьць дадала часу ў напісаньні дзьвюх вялікіх манаграфіяў – пра ўзаемадачыненьні Беларусі й Нямецкага ордэну ў Сярэднявеччы, а таксама пра аспэкты сучаснага стану беларускай гістарыяграфіі.

Генадзь Мікалаевіч ня ёсьць сябрам Партыі БНФ, але яшчэ ў 80-я гады, пад час навучаньня ў пэдагагічным унівэрсытэце ён стаўся сябрам беларускага руху й кіраўніком адзінага ў Беларусі валянтэрскага будатраду "Нашчадкі", які працаваў на рэстаўрацыі й археалягічных раскопках. Дарэчы, пасьля сканчэньня інстытуту ў 1984 годзе малады спэцыяліст працаваў у інстытуце гісторыі НАН Беларусі, з 1992-га — старэйшым навуковым супрацоўнікам. Шкада, што ў 2005-м яго веды й талент раптам зрабіліся для дзяржавы непатрэбнымі. Аднак жа ў першым томе двухтомнай вялікай энцыкляпэдыі "Вялікае княства Літоўскае", выданьне якой ажыцьцявіла дзяржаўнае выдавецтва "Беларуская энцыкляпэдыя імя Петруся Броўкі" сп. Сагановіч, як, зрэшты, і спсп. Анатоль Грыцкевіч, Адам Мальдзіс, Вольга Дадзіёмава выступілі ў якасьці афіцыйных навуковых кансультантаў. Спадар Генадзь, дарэчы, сам лічыць, першы том энцыкляпэдыі атрымаўся вельмі стракатым па тоне й глыбіні публікацыяў. Шмат чаго, кажа, рабілася фармальна. Моцна сьпяшаліся. Некаторыя артыкулы былі напісаныя наноў, а іншыя – проста перадрукаваныя з "Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі". Прычым гэты том ўсё ж атрымаўся абсалютна ня ў рэчышчы нэасавецкіх тэндэнцыяў і варункаў сёньняшняй "гістарычнай навукі", што ня можа ня ўсьцешваць. Што ж да другога тому, артыкулы да якога зараз пішуцца, то ёсьць небясьпека, што ён можа стаць больш рэакцыйным.

Генадзь Сагановіч ня мог ня стаць гісторыкам і архэолягам. Ён — чалавек з глыбіні Беларусі. Ён нарадзіўся ў 1961 годзе ў вёсцы Турная, што на Івацэвіччыне. Кандыдат гістарычных навук (1989). Ён — зямляк Тадэвуша Касьцюшкі, чым ганарыцца. Са студэнцкіх гадоў зьбірае матэрыялы, каб напісаць кнігу аб сваёй малой Радзіме. Гісторыю сваёй сям'і ведае да чацьвертага калена. Праводзіў раскопкі прыватнаўладальніцкіх замкаў (Гарадоцкі, Глускі, Койданаўскі, Лоскі...), дасьледваў кавальства Беларусі эпохі Сярэднявечча. Вывучае ваенна-палітычную гісторыю ВКЛ, гістарычныя сувязі Беларусі зь немцамі ў сярэднявеччы. Складальнік і адзін з аўтараў збору "Імя твае Белая Русь" (1991). Заснавальнік і рэдактар часопісу "Беларускі гістарычны агляд" (з 1994). Ізноў жа, дарэчы, апошнія два гады адзін з самых аўтарытэтных гістарычных часопісаў усходняй Эўропы выходзіць неафіцыйна, два разы на год.

Дысэртацыі і палеміка, агляды і рэцэнзіі, артыкулы і архівалії, гістарыяграфія й пераклады – ўсё гэта, амаль на 400 старонках – таксама вынік працы калектыва пад кіраўніцтвам Генадзя Сагановіча.

Тэмай ягонай дысэртацыі было кавальнае рамяство Беларусі 14 – 18 стагодзьдзяў. Але вэктар цікавасьці дасьледчыка ўсё пашыраецца. Ім напісаны навуковыя артыкулы пра Канстанціна Астроскага, пра "невядомую" і "Полацкую" войны, пра Берасьцейскую Царкоўную вунію й войска Вялікага Княства, пра нацыянальную тоеснасьць беларусаў і нямецкую каталіцкую місію.

Дзьве самыя вядомыя навукова-дыдактычныя працы спадара Сагановіча – гэта "Нарыс гісторыі Беларусі", які выйшаў з друку ў 2001 годзе, і "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", твор, напісаны сумесна з Уладзімерам Арловым. Гэтая кроніка Беларусі 10 стагодзьдзяў, ад часоў легендарных Рагвалода й Рагнеды, ад 862 году, калі летапісы ўпершыню ўзгадваюць Полацак, да 25 сакавіка 1918 году – дня незалежнасьці, дня абвяшчэньня Беларускае Народнае рэспублікі, зрабілася навуковым "гітом" і вытрымала ўжо некалькі перавыданьняў.

Генадзь Сагановіч — адзін з заснавальнікаў і старшыня Беларускага навукова-гуманітарнага таварыства (1987 – 1992). Узнагароджаны мэдалём Ф.Багушэвіча Беларускага ПЭН-Цэнтра (1996), адмысловымі знакамі часопіса Przeglad Wschodni ("Усходні агляд", 2002), узнагародай Ежы Гедройца Люблінскага навукова-грамадзкага камітэту (2003).

Спадар Генадзь зараз часова беспрацоўны. У афіцыйным сэнсе. Стала яшчэ цяжэй, бо сям'я досыць вялікая — жонка й трое дзетак. Дзьве дачкі вучацца ў Нацыянальным гуманітарным ліцэі (тым самым, які існуе не дзякуючы, а насуперак), а сыну яшчэ няма й двух гадоў. Але навуковец шмат піша ў замежныя гістарычныя часопісы й займаецца штодзённай ахвярнай працай навукоўца. Зычым плёну й аптымізму!


НавінЫ БНФ

**E-mail:** pbnf@pbnf.org
**Сайт:** http://www.pbnf.org
**Адрас для ліставаньня:** 220005, Менск, вул. Варвашэні 8, Сядзіба БНФ

**Галоўны рэдактар:** Юры Гембіцкі
**Выпускны рэдактар:** Франак Вячорка

№7(85), 17 жніўня 2005 г., наклад 299 ас.
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакумэнтацыі